ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 20
чэрвень, 2013
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

# Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ: «Усялякі від творчасці дае задавальненне...»



**– Шаноўная Галіна Анатольеўна, нядаўна выйшла Вашая новая і незвычайная для паэта кніга «Што варта радасці і слёз... » з падзагалоўкам «біяграфія ў вершах і нарысах». Як прыйшла ідэя стварыць такую кнігу?**

– Справа ў тым, што я не проста паэтка, а пісьменніца. Нарысы, п’есы, апавяданні час ад часу просяцца выкласці іх на паперу і тады пачынаюць жыць сваім, незалежным ад мяне, жыццём, як і кожны надрукаваны твор. Мая новая кніга паяднала розныя жанры – нарысістыку, дакументальную прозу, паэзію – чым, кажуць, і адметная. Жыццёвая, падзейная аснова кнігі дапоўнена вершамі розных гадоў, фрагментамі біяграфіі. Тое-сёе ўжо было ў друку. Складалася кніжка ў цяжкі для мяне час, і без падтрымкі Саюза беларускіх пісьменнікаў – скажу без перабольшання – яе проста не існавала б.

**– Вы напісалі некалькі кніг для дзяцей і ў свой час працавалі настаўніцай. Якой, на Ваш погляд, павінна быць дзіцячая літаратура? Якую ролю адыгрывае дзіцячая літаратура ў выхаванні дзяцей?**

– Як ні дзіўна, але для дзяцей я пачала пісаць як маці, а не як настаўніца. Усё пачалося з уласных калыханак, якія я прыдумляла для дачок. Або вось такі выпадак. З меншай мы былі ў Доме творчасці на Іслачы, адпачывалі на грудку, а побач разлілася рака. І тут проста пад нашай пасцілкай пачулася варушэнне – пачаў вылазіць крот, які ратаваўся ад разліву. Гатовае, можна сказаць, апавяданне! Аповеды мужа пра яго дзяцінства запісала, свае гісторы ўспомніла – як коціка ажыўляла і да т.п. Так што творы для дзяцей могуць быць як фантазійнымі, казачнымі, так і ўзятымі з рэчаіснасці. Пры ўважлівасці, душэўнай пільнасці можна падгледзець цікавае, рэдкае, незвычайнае – і надаць яму форму, якую дзеці ўспрымуць. Мяне калісьці ўразіў факт, што ў Швецыі першую кніжку дзіцяці ўлады дораць… у радзільным доме, а другую – праз тры гады. Там пісьменнік і мастак-афарміцель могуць быць у адной асобе. Дзіцячая літаратура неабходная для таго, каб у вобразнай форме давесці малому чалавеку пачаткі маралі і прыгажосці. І, на мой

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Галіна Каржанеўская – паэтка, публіцыст, драматург. Аўтар кніг паэзіі «На мове шчасця» (1973), «Мой сад» (1976), «Званы гадоў» (1980), «Жылабыла» (1983), «Вечны водгук» (1988), кніжкі вершаў для дзяцей «На што падобна аблачынка» (1983) і «Сінічка на балконе» (1989), «Што варта радасці і слёз…» (2013). Нарадзілася ў 1950 г. у вёсцы Лясісшча Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Жыве ў Мінску.**




**Карамазаў Віктар. Выбраныя творы; прадм. А. Бараноўскага. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 576 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).**

Том выбраных твораў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Кастуся Каліноўскага Віктара Карамазава (нар. 1934) складаецца з рамана «Мастак і парабкі», найлепшых апавяданняў і эсэ, а таксама публіцыстычнага слова пісьменніка па пытаннях беларускай літаратуры на мяжы двух стагоддзяў – дыялога з паэтам Леанідам Галубовічам. Шэсцьдзясят сёмы том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».




**Кандратаў Мікола. Кроплі дажджу: паэзія. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 98 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 37).**

Гэтая кніга ёсць у пэўнай ступені працягам сумна-лірычнага пераасэнсавання свету аўтарам, пачатага ў папярэдняй кнізе «Вершы і зоркі». Але ён верыць у тое, што кожная кропля можа бліснуць сонечным промнем.




**Сцебурака Усевалад. Бег па самаадчуванні. Вершы, зацемкі. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 39).**

У кнігу ўвайшлі вершы і малая проза, створаныя аўтарам цягам апошніх гадоў, а таксама выбраныя творы з папярэдняй кнігі вершаў «Крушня» і некалькі перакладаў А. Вазнясенскага.




**Захаранка Мікола. І тады ўдарыў бом: апавяданні і п'есы; уклад. А. Астапенкі. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 220 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 41).**

Трагедыя чалавечага жыцця і яго святочная весялосць кіруюць думкамі і ўчынкамі герояў гэтай кнігі. Пячаткай трагічнага камізму пазначаныя іх лёсы і характары. Будзённае ў творах цесна пераплецена з казачнай рэальнасцю, афарбавана яе прывідным святлом. Казка ў іх густа рэалістычная, рэалізм казачны. Аўтару відавочна не сумна ў створаным ім фантастычным свеце. Не засумуе й чытач.

**Марціновіч Віктар. Сфагнум: раман; пер. В. Рыжкова. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 320 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 42).**




Трое маладых злачынцаў забіваюць падзельніка і губляюць чужыя грошы, якія цяпер давядзецца вяртаць любой цаной. Яны вырашаюць залегчы на дно ў маленькай вёсцы, ратуючысяадначасова ад крэдытораў і крымінальнага вышуку. І ўсё пайшло б паводле задумы, калі б не знешне паўмёртвая беларуская вёска з яе неўміручай паганскай містыкай, якая падказвае нечаканае развязанне праблемы. Героі за паўкроку ад шчаслівага фіналу, але ці не зарана глядзець у неба, калі пад нагамі – багна?




**Івашчанка Анатоль. Хай так: вершы. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 124 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 43).**

У другую кнігу Анатоля Івашчанкі ўвайшлі вершы, што складаліся цягам сямі апошніх гадоў. Халаднаватая метафарычнасць і адстароненасць, характэрныя вершам першага зборніка паэта, саступаюць месца пачуццёвасці, лірызму, а часам – і звароту да вострай сацыяльнай праблематыкі. Паэт запрашае чытача выправіцца ў захапляльнае падарожжа: ад самоты – да свабоды…




**Скарынкина Таня. Книга для чтения вне помещений и в помещениях: стихи. – Минск: Кнігазбор, 2013. – 174 с. – (Библиотека Союза белорусских писателей «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Сто з хвосцікам вершаў за дваццаць гадоў – такая перад вамі кніга. У ёй выдумкі ні грама. Ад пачатковага радка да фінальнай кропкі – усё праўда і трошкі сноў.




**Сычык Іван. Крыж пакут і надзей: проза. – Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2012. – 352 с.**

«Крыж пакут і надзей» – пасмяротная кніга берасцейскага пісьменніка і мастака Івана Сычыка (1954–2001). Чытач упершыню пазнаёміцца з раманамі празаіка, у якіх знайшла адбітак хроніка жыцця людзей мастацтва ў складаныя, супярэчлівыя часы станаўлення беларускай дзяржаўнасці. Героі твораў Івана Сычыка – рамантыкі, летуценнікі, людзі тонкага душэўнага складу – знаходзяцца ў пастаянным пошуку адказаў на пакутлівыя пытанні рэчаіснасці: што ёсць праўда ў мастацтве, у чым сэнс творчасці, якая роля мастака ў зменлівым грамадстве?.. Яны пакутуюць, памыляюцца, але ўрэшце знаходзяць у сабе сілы варта прайсці праз няпростыя жыццёвыя выпрабаванні. І прычынай усяму – іх цесная духоўная паяднанасць з духоўнымі і культурнымі традыцыямі зямлі бацькоў.




**Пятровіч Барыс. Спакушэнне: апавяданні розных гадоў. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 340 с.**

У зборнік увайшлі выбраныя апавяданні Барыса Пятровіча (Сачанкі), якія друкаваліся ў кнігах «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце БЫЦЬ...», а таксама напісаныя ў апошні час. Героі твораў балансуюць на мяжы явы і сну, адчаю і надзеі, мінулага і будучыні, хаосу і гармоніі, кахання і...




**Несцяровіч Уладзімір. Непрыручанае рэха: аповесць. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 174 с.: іл.**

У аповесці «Непрыручанае рэха» аўтар, адчуваецца, надае больш увагі свайму стаўленню да падзеяў, што адбываюцца вакол яго, чым самім падзеям: яны тут нібы нешта другаснае, толькі дапаўненне абставінаў.

Чытаючы кнігу, мы сапраўды мусім пераканацца, што сам аўтар у ёй – не проста галоўны персанаж, ад імя якога ідзе гаворка ды з якім пастаянна адбываюцца нейкія прыгоды (і не толькі на паляванні!). З такой нагоды нам застаецца адно: пазайздросціць яму за тое. Але не будзем паддавацца свайму першапачатковаму ўражанню ад прачытанага. Аўтар далёка не летуценнік. Ён, заўважым, – праблематык, бо сваёй кнігай заклікае чалавека не быць сляпым спажыўцом прыроды.




**Арлоў Уладзімір. Ордэн Белай Мышы: аповесці і апавяданні. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 390 с. – (Серыя «Я кнігу маю»).**

У адной невялікай краіне насельніцтва складалася з аднаго караля, аднаго прэм’ер-міністра, аднаго генерала, аднаго прафесара, аднаго студэнта, аднаго пісьменніка. Усіх было па адным, і дзякуючы гэтаму краіна жыла заможна і спакойна. Але аднойчы спакой быў парушаны: каралеўскі ювелір вырабіў адзіны ордэн, а значыць, павінен быў з’явіцца і адзіны яго кавалер. Як падзеі разгортваліся далей, чытач даведаецца з вострасюжэтнага твора, што даў зборніку назву. У кнігу ўвайшлі таксама «Полацкія апавяданні» ды іншыя тэксты на сучасныя і вечныя тэмы.




**Глобус Адам. Імёны: літаратурныя партрэты. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 122 с. – (Бібліятэка «Беларускі калегіюм»).**

Сабраныя ў кнізе ўспаміны пра некаторых мастакоў, настаўнікаў і пісьменнікаў нашага часу заснаваны на тым, чаму Адам Глобус сам быў сведкам. Кніга «Імёны» з’яўляецца ў нейкім сэнсе антыподам папярэдняй кнізе Глобуса «сУчаснікі», бо замест гратэскных герояў у фацецыях тут старанна выпісаны ўрачыстыя партрэты вядомых людзей: пісьменніка Караткевіча, паэта Сыса, настаўніка Карпейчыка, мастачкі Русавай, жывапісца Малішэўскага, выкладчыка Хадыкі і мастака Хацкевіча.




**Рознэр Ян. Сем дзён да пахавання; пер. са славацкай мовы Таццяны Абдулавай. – Мінск: Зміцер Колас, 2012. – 344 с.**

Раман «Сем дзён да пахавання» славацкага празаіка і публіцыста, перакладчыка і літаратурнага крытыка Яна Рознэра (1922–2006) – гэта драматычны аповед пра падзеі, звязаныя са смерцю і пахаваннем пісьменнікавай жонкі Зоры, гэта высокастылёвы суплёт успамінаў і рэфлексіяў аўтара, у якім крытычна адлюстроўваецца таталітарызм эпохі «нармалізацыі», ствараецца шэраг партрэтаў тагачасных постацяў славацкай культуры і палітыкі.




**Наркевіч Алесь. Аднойчы пераважыць жыццё. – Санкт-Пецярбург: «Неўскі прастор», 2012. – 166 с.**

У зборнік увайшлі выбраныя вершы розных гадоў беларускага паэта Алеся Наркевіча. Адрасуецца шырокай чытацкай аўдыторыі. Аматараў беларускай паэзіі зацікавіць патрыятычная скіраванасць і лірычнасць вершаў.




**Барадулін Рыгор. Воз вёз лёс: хуткамоўкі. – Мінск: Радыёла-плюс, 2013. – 64 с.: фат.**

Кніга хуткамовак Рыгора Барадуліна. Калі чалавек хоча, каб яго лепш пачулі, ён рыхтуецца да размовы з дапамогай хуткамовак. Вось некалькі для трэніроўкі...

Пабег бы ў гай бугай па рог,
Ды зачапіўся за парог.

Цялушку спудзіла трашчотка.
Цыбулю ў цёрле цёрла цётка.

Лётала ля стаўка ластаўка.




**Залатая яблынька. Казкі, легенды, паданні. Хрэстаматыя дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту; уклад. Ул. М. Сіўчыкаў. – Мінск: «ІП Уладзімір Сіўчыкаў», 2013. – 288 с.: іл.**

У гэтай чытанцы сабраныя народныя казкі, легенды і паданні, а таксама творы беларускіх пісьменнікаў. Адрасуецца яна дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, іх бацькам, бабулям і дзядулям, а таксама навучэнцам педагагічных коледжаў, настаўнікам і выхавацелям.

# Дзве кнігі сяброў прэзентаваныя разам





24 чэрвеня ў паб-клубе «Графіці» наведнікаў чакала незвычайная імпрэза – супольная прэзентацыя дзвюх кніг. Анатоль Івашчанка і Усевалад Сцебурака – таленавітыя паэты, сімпатычныя хлопцы і найлепшыя сябры.

Вядучым вечарыны стаў Анатоль Сцебурака, брат Усевалада. Не дзіўна, што імпрэза атрымалася вельмі душэўнай, свойскай і нават сямейнай. Дый народу сабралася шмат.

«Сева – мой кум у кубе», – жартам распавядае Анатоль Івашчанка, прыгадваючы гісторыю знаёмства са сваім сябрам. І пачынае імпрэзу з чытання вершаў з нізкі «Духоўны апгрэйд» са сваёй новай кнігі пад назвай «Хай так».

Калі Анатоль быў нешматслоўны і больш выступаў з паэзіяй, то Усевалад, прадстаўляючы ўласны зборнік «Бег па самаадчуванні», расказваў пра тое, як складалася кніга, якія раздзелы і чаму яна ўключае – карацей, дапамагаў крытыкам з інтэрпрэтацыяй сваіх твораў. Вершы, канечне, таксама гучалі.



Паэтычныя чытанні чаргаваліся музычнымі выступамі – спецыяльным госцем прэзентацыі быў гурт «Re1ikt», які выходзіў на сцэну некалькі разоў, у тым ліку паставіў фінальную кропку вечара. Спяваў свае песні на беларускай і ўкраінскай мовах і музыкант Уладзімір Дрындрожык.

Паэт, перакладчык, слэмер Віталь Рыжкоў, які апошнім часам рэдка з'яўляецца на публіцы, прачытаў некалькі вершаў і павіншаваў сваіх сяброў і калег з выхадам кніг. Прэзентацыя завяршылася аўтограф-сесіяй.

**Віка Трэнас**
**Фота Алена Казлова**

# «Першапачатак» беларускага фальклору

У Беларускім Доме ў Варшаве адкрылася фотавыстава пад назвай «Першапачатак», у межах якой прадстаўлены працы з выявамі сучасных беларускіх пісьменнікаў у вобразах розных казачных істотаў.

Усяго ў праекце, прымеркаваным да юбілею ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» (у наступным годзе творчай арганізацыі споўніцца 80), узялі ўдзел 14 беларускамоўных літаратараў, сярод якіх такія вядомыя мэтры прыгожага пісьменства, як Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Арлоў, Леанід Дранько-Майсюк і іншыя не менш цікавыя і таленавітыя асобы. Аўтарам ідэі і каардынатарам праекта выступіла паэтка Ірына Хадарэнка.



На фотаздымках, выкананых Валерыем Дубоўскім, пісьменнікі ператварыліся ў наступных персанажаў славянскай міфалогіі: Бай, Дамавік, Лесавік, Жыжаль, Жыцень, Лазнік, Русалка, Лёля, Бордзя, Цёця, чэрці. На адкрыццё выставы, што праходзіць пры падтрымцы кампаніі «Разам для Беларусі», сабраліся прадстаўнікі беларускай супольнасці, якія зараз жывуць у Польшчы. У Мінску дадзеная экспазіцыя будзе дэманстравацца з восені.

**Прэс-служба СБП**




**Асветніца і мецэнатка: Да 150-годдзя Магдалены з Завішаў Радзівіл: матэрыялы круглага стала (Мінск, 15 снежня 2011 года); уклад., прадм., нав. рэд. І. Багдановіч. – Мінск: «Кнігазбор», 2013. – 100 с.**

Кніга прысвечана 150-гадоваму юбілею вядомай беларускай асветніцы і мецэнаткі, дзеяча беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст. Магдалены Радзівіл (1861–1945), якая паходзіла са знакамітага беларускага роду Завішаў. Асноўную частку складаюць матэрыялы праведзенага з гэтай нагоды ўрачыстага круглага стала (Мінск, 15 снежня 2011 г.), у якім бралі ўдзел вядомыя вучоныя, літаратары, мастакі. Кнігу дапаўняюць архіўныя знаходкі і рэдкія публікацыі ранейшых гадоў. Разлічана на даследчыкаў, дзеячаў культуры, выкладчыкаў вышэйшых і сярэдніх устаноў адукацыі, шырокага кола чытачоў.




**Легенды і паданні Слонімшчыны; склад. С. Чыгрын. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 124 с.**

У гэтую мініяцюрную кніжачку ўвайшлі легенды і паданні Слонімшчыны, якія сабраў і пераказаў літаратар, гісторык і краязнавец Сяргей Чыгрын са Слоніма. У іх тлумачыцца паходжанне мясцовых аб'ектаў і назваў вёсак, рэчак, азёраў, крыніцаў, камянёў, лясных мясцінаў, урочышчаў і інш.




**Чаропка Вітаўт. Міхал Андрыёлі: Беларускі мастак з Вільні. – Мінск: «Харвест», 2012. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячоў беларускай культуры»)**

Міхал (Міхаіл) Андрыёлі (1836–1893) – выдатны беларускі мастак XIX стагоддзя, які нарадзіўся і жыў у Вільні. Ён маляваў краявіды Беларусі, адлюстраваў падзеі паўстання 1863–1864 гадоў (у якім прымаў асабісты ўдзел), зрабіў шматлікія малюнкі да твораў Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, іншых паэтаў і пісьменнікаў, чые карані з беларускай зямлі. Прыйшоў час вярнуць Андрыёлі ў свет айчыннай культуры.




**Мінскі Алесь. Фларыян Ждановіч: Творца беларускага тэатра. – Мінск: «Харвест», 2012. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячоў беларускай культуры»)**

Імя Фларыяна Ждановіча (1884–1937) арганічна звязана з гісторыяй фарміравання сучаснага беларускага тэатра. Ф. Ждановіч быў прафесіянальным акцёрам беларускай сцэны і адным з тых энтузіястаў, хто з пачатку XX стагоддзя пракладваў першыя сцяжынкі на шляху здзяйснення высакароднай ідэі – стварэння нацыянальнага драматычнага тэатра. Ніякія цяжкасці, выпрабаванні, праследаванні не зламалі яго волі ў дасягненні гэтай мэты.




**Тарас Анатоль. Мітрафан Доўнар-Запольскі: Бацька беларускай гісторыяграфіі. – Мінск: «Харвест», 2012. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячоў беларускай культуры»)**

Мітрафан Доўнар-Запольскі (1867–1934) – выдатны беларускі гісторык, этнограф, эканаміст, педагог. Ён нарадзіўся ў Рэчыцы, але жыў і вучыўся, выкладаў і друкаваўся ў Кіеве і Маскве, Баку і Мінску. Доўнар-Запольскі лічыцца заснавальнікам беларускай навуковай гістарыяграфіі, у тым ліку археаграфіі і крыніцазнаўства. Аўтар класічных прац «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» (1919), «Гісторыя Беларусі», якая напісана ў 1926 г., аднак, убачыла свет толькі праз 68 гадоў, «Народная гаспадарка Беларусі, 1861–1914» (1926) і шэрагу іншых.




**Пашкевіч Алесь. Карусь Каганец: «Кроў з крыві беларуса...». – Мінск: «Харвест», 2013. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»)**

Казімір Рафаіл Кастравіцкі (Карусь Каганец) (1868–1918) – славуты беларускі драматург, паэт, празаік, грамадскі дзеяч, перакладчык, мастак, скульптар, карыкатурыст, фальклярыст, этнограф, мовазнаўца, актор, педагог, аўтар першага беларускага «Буквара», стрыечны дзядзька сусветнавядомага паэта Гіёма Апалінэра. Яго постаць – самабытная і цікавая з'ява ў культурным і грамадскім жыцці Беларусі канца XIX – пачатку XX стагоддзя.




**Янушкевіч Язэп. Апостал Палесся: Святы Андрэй Баболя ў паэмах Янкі Купалы: нарыс. Мінск: Про Хрысто, 2013. – 56 с.**

Нарыс Язэпа Янушкевіча прысвечаны 75-й гадавіне кананізацыі святога Андрэя Баболі – беларускага святара-езуіта, які быў жорстка закатаваны казакамі ў 1657 годзе і прыняў пакутніцкую смерць. У выданне ўключана публікацыя дзвюх народных песень пра святога, занатаваных у фальклорных крыніцах канца XIX стагоддзя, а таксама дзвюх арыгінальных паэм пра Андрэя Баболю, якія былі напісаны ў пачатку XX стагоддзя і падаюцца тут у дзвюх транскрыпцыях: у кірылічнай і лацінскай (змешчана факсіміле машынапісных старонак арыгінала). Шматгадовая даследчыцкая праца дазволіла Язэпу Янушкевічу выявіць, што найбольш верагодным аўтарам гэтых паэмаў належыць лічыць народнага паэта Янку Купалу.

# ■ НАВУКА/ПУБЛІЦЫСТЫКА/ДАВЕДНІКІ




**Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Выпуск 1. Укладальнік і рэдактар А. Я. Тарас. – Мінск, 2013. – 200 с.**

Матэрыялы першага выпуску «Запісаў ТАБГ імя В. Ластоўскага» падзеленыя на чатыры часткі. У першай частцы «Сведкі сівой даўніны» змешчаны наступныя артыкулы: Г. Праневіч «Вацлаў Ластоўскі аб волата-крывіцкім паходжанні Беларусаў», Н. Снігірова «Беларуска-яцвяжскія ўзаемдачыненні як аспект краязнаўства» і інш. У частцы «Гісторыя вёсак» – В. Васькоў «Козацкие Бовсуны і бовсунские козаки», Л. Шыкула і інш. «История деревни Хомск» і інш. У частцы «Беларуская тапаніміка» – І. Пракаповіч «Досвед даследавання тапанімії Пастаўскага раёна», С. Гаўрылава «Тапанімія Полацка ў рэтраспектыве часу (XIV–XXI ст.)» і інш. У частцы «Падзеі сучаснай эпохі» – Г. Чэрнік «Навуковая спадчына Мікалая Каспяровіча як падмурак для сучаснага краязнаўства», С. Чыгрын «Лёс слонімскіх кнігазбораў і рукапісаў» і інш.




**Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Выпуск 2. А. Я. Тарас. – Мінск, 2013. – 200 с.**

Амаль усе матэрыялы другога выпуску «Запісаў ТАБГ імя В. Ластоўскага» (15 з 17) прысвечаныя гісторыі Смаленшчыны, неад'емнай часткі этнічнай тэрыторыі крывічоў, продкаў беларусаў. Адна група матэрыялаў – на беларускай мове (8 артыкулаў), іншая – на рускай мове (7 артыкулаў). Разам яны даюць досыць поўнае ўяўленне пра гісторыю гэтай зямлі, якая была адабраная ад ВКЛ у XVII стагоддзі.




**Праблемы гуманітарнай бяспекі Беларусі: Матэр'ялы навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 4 траўня 2013 г.); пад рэд. Тараса А. Я. Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры, 2013. – 336 с.**

Зборнік матэрыялаў канферэнцыі налічвае 29 тэкстаў, з якіх 15 на беларускай мове і 14 на расейскай. Яны падзеленыя на тры часткі: гістарыяграфія (8 тэкстаў), культуралогія (13 тэкстаў), інфармацыйная прастора (8 тэкстаў). Сярод аўтараў – гісторыкі, культуролагі, сацыёлагі, эканамісты, палітолагі, пісьменнікі, рэжысёр.




**Кавалёў Сяргей. Пачвара ў рэліктавым лесе. Літаратура. Тэатр. Крытыка. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 234 с.**

Сяргей Кавалёў (нар. у 1963 г.) – вядомы даследчык даўняй беларускай літаратуры і драматург. Пачынаў свой творчы шлях як крытык, выдаў зборнікі артыкулаў «Як пакахаць ружу?» (1989) і «Партрэт шкла» (1991). «Пачвара ў рэліктавым лесе» – чарговая кніга Кавалёва-крытыка пра сучасную літаратуру. У зборнік увайшлі новыя тэксты, выбраныя часопісныя публікацыі мінулых гадоў, а таксама артыкулы пра тэатр.




**Надаш Петэр. Канец адной сямейнай сагі; пер. з пол. А. Карцель. – Мінск: Эканомпрэс, 2012. – 140 с.**

Галоўны герой твора – маленькі хлопчык, які жыве з бабуляй ды дзядулем і слухае ад апошняга незлічоныя гісторыі – паданні – сямейныя ўспаміны, біблейныя і талмудычныя казанні ды гістарычныя апісанні, – што сплятаюцца ў ягоным уяўленні ў суцэльны сямейны раман. У гэтым расповедзе слова набрыняе рэальнасцю – і хлопчыкаў бацька, які здрадзіў сваёй сям'і, таксама абвешчаны здраднікам паводле закона. Прывучаны да шчырасці і свабоды выяўлення показкамі дзядулі хлопчык праўдзіва сведчыць пра жорсткі і жахлівы свет, у якім жывуць дарослыя. Паводле аўтарскага стыля творы Петэра Надаша магчыма параўнаць з творамі Ісаака Бабеля, Салмана Рушдзі і Італё Кальвіна, што надае яму славу аднога з выбітных сучасных еўрапейскіх раманістаў. Дакументальная хроніка адной сям'і, напісаная ў рэдкім жанры гісторыка-літаратурнага эсэ, абудзіць несумнеўную цікаўнасць у самага шырокага кола чытачоў.




**Бушлякоў Юрась. Жывая мова. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. – 294 с.: іл.**

«Жывая мова» – калекцыя практычных эсэ пра тое, як гаварыць па-беларуску правільна і прыгожа. На працягу сваёй рэдактарскай працы на Радыё Свабода аўтар выяўляў складаныя, спрэчныя ці памылковыя моманты ў жывой мове, аналізаваў іх і даваў парады, якія склалі цыкл радыёперадачаў і ляглі ў аснову гэтай кнігі.




**Дудзюк Зінаіда. Выжыць на дарозе смерці: успаміны. – Мінск: выдавецтва «Чатыры чвэрці», 2013. – 260 с.**

Кніга апавядае пра жорсткія выпрабаванні, якія выпала перажыць мірнаму насельніцтву і ў прыватнасці дзецям і падлеткам ў гады акупацыі Беларусі войскам фашысцкай Германіі. Успаміны дзяцей-відавочцаў тых падзеяў яскрава паказваюць, як ім даводзілася выжываць пад дуламі аўтаматаў і жэрламі гарматаў, у канцэнтрацыйных лагерах і на прымусовай працы ў Германіі, галадаць і мерзнуць, але нават перажыўшы гэтыя выпрабаванні, застацца добрымі і зычлівымі людзьмі.

# Крэскі да партрэтаў мастакоў

**Гваздзёў Сяргей. Крэскі да партрэтаў мастакоў з Заходняй Беларусі. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 338 с.: іл. – (Бібліятэчка «Новага часу»).**

Кніжка прысвечана як вядомым, так і невядомым мастакам Заходняй Беларусі і выйшла ў новай серыі «Бібліятэчка «Новага Часу». Большасць нарысаў друкаваліся раней менавіта ў гэтым выданні і прыцягнулі ўвагу чытачоў адкрыццём дзясяткаў напаўзабытых на радзіме імёнаў творцаў.

Зборнік артыкулаў – адна з першых спробаў вярнуць з забыцця імёны мастакоў Заходняй Беларусі, якімі мы можам ганарыцца. Сярод асобаў, пра якіх распавядаецца ў мастацтвазнаўчых замалёўках – Аляксандар Лазіцкі, Мсціслаў Дабужынскі, Мар'ян Богуш-Шышка, Браніслаў Ямант, Уладзіслаў Дрэма, Пётр Паўлючук, Раман Семашкевіч, Васіль Сідаровіч, Пётр Мірановіч, Мікалай Цыкоўскі, Пётр Сергіевіч, Фердынанд Рушчыц, Зміцер Крачкоўскі, Кузьма Чурыла, Анатоль Рубановіч і інш.

У нарысах праз біяграфію творцаў, успаміны сучаснікаў, цытаты з літаратуры і асабістыя ўражанні аўтара вымалёўваюцца яркія і запамінальныя партрэты мастакоў. Мастацтвазнаўчыя замалёўкі не прэтэндуюць на паўнату ахопу і вычарпальнасць. Васіль Сідаровіч, Аляксандра Бяльцова і Пётр Мірановіч прадстаўленыя сціплымі біяграмамі. Але гэта ні ў якім разе не змяншае важнасць і вартасць гэтай кнігі, бо паказвае, колькі яшчэ невядомага і цікавага засталося па-за ўвагай і чакае сваіх даследчыкаў. Тым больш, што гэта нашыя землякі, якія ўсё сваё жыццё прысвяцілі мастацтву і зрабілі важкі ўнёсак у развіццё беларускай культуры, але застаюцца невядомымі на радзіме і цяпер.

«За 30 гадоў (1915–1945) існавання заходнебеларускае мастацтва хоць і не аформілася ў асобную, графічна акрэсленую і агульна прызнаную школу, але сцвердзіла сябе як шырокую, абапёртую на мастацкую спадчыну Вялікага Княства, плынь. Хоць і развівалася яно ў межах розных еўрапейскіх мастацкіх школ (Вільня, Рыга, Варшава, Кракаў, Прага і інш.), але ў праявах яго назіраюцца тыпалагічна агульныя рысы, што дазваляюць меркаваць пра большае», – піша аўтар у прадмове да кнігі.

Засмучае тое, што працы мастакоў расцярушаныя па ўсім свеце, а таму невядомыя на радзіме. Як слушна адзначае аўтар: «Адкрыццё новых імёнаў, вяртанне іх у культурны кантэкст і грамадскую свядомасць суайчыннікаў, папулярызацыя заходнебеларускай неабжытай духоўнай спадчыны, якая, акрамя ўласна мастацкай вартасці, мае дакументальную і гісторыка-культурную значнасць – справа неабходная. Дзяржаўная».

Прыкра, аднак, што кніжка пра мастакоў, якая павінна быць багата




ілюстраванай, выдадзена не ў выглядзе альбома. Ілюстрацыі ў «Крэсках да партрэтаў…» збольшага чорнабелыя. Ёсць каляровая ўклейка, але і тут змешчаны рэпрадукцыі карцінаў не ўсіх мастакоў-герояў нарысаў. Але не варта вінаваціць у гэтым аўтара ці выдаўца. Наадварот, трэба сказаць «Дзякуй» усім, хто спрычыніўся да падрыхтоўкі гэтай кнігі і выдавецтву «Галіяфы», што ў такі складаны для незалежных выдавецтваў час знаходзіць сродкі на выданне грамадска-значнай літаратуры.

Яна вартая перавыдання ў якасці альбома пры падтрымцы міністэрства культуры і дзяржаўных выдавецтваў і можа стаць своеасаблівым падручнікам-дапаможнікам для навучэнцаў і студэнтаў мастацкіх каледжаў і вну.

**А.С.**

# «Усялякі від творчасці дае задавальненне…»

*(Пачатак на стар. 1)*

погляд, літаратура для дзяцей патрабуе дзяржаўнай апекі не менш за саміх дзяцей.

**– Разам з Вамі ў літаратуру прыйшло шмат цікавых жанчынпаэтаў: Яўгенія Янішчыц, Раіса Баравікова, Таіса Бондар, Валянціна Коўтун, Вольга Іпатава і інш. Заўважана, што сярод пачынаючых звычайна шмат дзяўчат, але застаюцца ў літаратуры адзінкі з іх. Як Вам у свой час удалося пазбегнуць творчага крызісу, які бывае перад першай ці пасля першай кнігі? Што Вы можаце параіць сённяшнім пачынаючым?**

– Нашым пакаленнем, пакаленнем 70-ых, па праву можна ганарыцца, столькі ў ім выбітных асобаў. Магутнай была і яго жаночая плынь. Пачыналі ўсе як паэткі, але сцвердзіліся ў розных жанрах прыгожага пісьменства. Дзяўчат сярод пачынаючых у літаратуры шмат таму, што іх шмат паўсюль: у культуры, адукацыі, тэатры, музычным мастацтве… Наша тонкая прыродная арганізацыя (я без іроніі) спрыяе цікавасці да гуманітарных сфераў. Далей усё залежыць ад таленту і меры паклікання. Скажу яшчэ, што да нас з увагай і павагай ставіліся старэйшыя: Максім Танк, Іван Шамякін, Мікола Аўрамчык, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Алесь Жук і многія іншыя. Мы і цяпер ім удзячны за гэта. Што ж да крызісаў, то такіх я ў сваім творчым жыцці штосьці не прыпомню. Хіба што цяпер – калі адчуваю, пішучы чарговы верш, што інтанацыі і вобразы якіясь знаёмыя, што няма навізны і нечаканасці для мяне самой…

Наконт парадаў пачынаючым… Што ж, узрост дазваляе. Слухайце сябе саміх, нікога не пераймайце. І калі захочацца вам рэзаць па дрэве або вышываць крыжыкам, то не стрымлівайце гэтага жадання. Бо ўсялякі від творчасці дае задавальненне і адчуванне душэўнай паўнаты.

## «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Злачынства, сэр: зборнік дэтэктыўнага апавядання; уклад. Г. Янкута. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 468 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

Канцэпцыя зборніка «Злачынства, сэр!» грунтуецца на меркаванні, што дэтэктыўнае апавяданне – неабавязкова жанр масавай літаратуры. У кнізе можна знайсці і так званы протадэтэктыў – апавяданне Э.Т.А. Гофмана «Мадэмуазель дэ Скюдэры», у якім толькі-толькі з’яўляюцца першыя прыкметы жанру, які неўзабаве зробіцца ці не самым папулярным, і два апавяданні аднаго з бацькоў дэтэктыва Эдгара По, і класічныя творы прадстаўнікоў жанра Г.К. Чэстэртана і Э. Куіна, і апавяданне вядомага (праўда, зусім не гісторыямі пра крадзяжы і забойствы) чэшскага празаіка Карэла Чапэка, і твор амерыканца Ф. Стоктана «Панна ці тыгр?», якое ўваходзіць у самыя знакамітыя анталогіі амерыканскага апавядання, і ўзоры сучасных мадыфікацыяў жанра – творы В. Такарчук, Д. Клугера, М.Бліні. Раздзел «Бясчынства, сэр!» змяшчае вядомыя класічныя пародыі на гісторыі пра Шэрлака Холмса, напісаныя Б. Гартам, Р. Стаўтам, Ж. Жыраду і А. Аверчанкам, а таксама вялікую аповесць славацкай пісьменніцы Даніэлы Капітанявай «Забойства ў Жлуктаве», у якой аўтарка прымушае самых знакамітых дэтэктываў усіх часоў і народаў расследаваць загадкавае забойства ў маленькім славацкім мястэчку Жлуктаў.

«Так, у нас тут, безумоўна, забіваюць. Ну, і крадуць усё, што кепска ляжыць альбо старанна ахоўваецца: дыяменты, лісты, партсігары, галёшы і грошы. А яшчэ ў нас смяюцца – бо, як гэта ні парадаксальна, нават забойства можа зрабіцца крыніцай добрага настрою. Прынамсі, для чытача».




**Сяргей Кавалёў. Крывіцкі апокрыф: п’есы. – Беласток: Prymat, 2013. – 160 с. – Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб’яднання «Белавежа».**

У кнігу знанага драматурга Сяргея Кавалёва, п’есы якога паспяхова ідуць на сцэнах многіх тэатраў Беларусі, а таксама за мяжой, увайшлі як новыя творы («Крывіцкі апокрыф»), гэтак і новыя варыянты раней вядомых п’ес, створаныя для сучасных сцэнічных увасабленняў («Віфляемская зорка», «Авантуры Кубліцкага ды Заблоцкага»). Гэта восемдзесят шостая кніга беластоцкага літаб’яднання «Белавежа» і першая (!) – драматургічная.

Колішняя «дзеяслоўская» публікацыя рэцэнзіяў польскіх крытыкаў на п’есу «Вяртанне Галадара» ў чарговы раз засведчыла цікавасць нашых заходніх суседзяў да творчасці беларускага драматурга. Вось і гэты зборнік завяршае аглядны артыкул Беаты Сівек па творчасці Сяргея Кавалёва, напісаны па-польску. Тое ж, што зрэдзьчасу з’яўляецца ў беларускай перыёдыцы пра драматургію мае звычайна павярхоўны канстатацыйны характар.

## КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 20
чэрвень, 2013
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 20, 24.06.2013.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com